# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

2 (463) | ГОД X | 7 студзеня 1965 г. | ЦАНА 60 гр.

Пімен Панчанка

## РОДНАЯ МОВА

Кажуць, мова мая аджывае
Век свой ціхі: ёй знікнуць пара.
Для мяне ж яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара.

Гэта ластавак шчабятанне,
Звон світальны палескіх крыніц,
Сінь чабору, і барвы зарніц,
І буслінае клекатанне.

Калі ж хто загадае: «Не трэба!» —
Адрачэцца ад мовы народ, —
Папрашу я і сонца, і неба:
Мне не трэба ні славы, ні хлеба,
Асудзіце на безліч нягод —

Толькі месяцаў назвы пакіньце,
Назвы родныя роднай зямлі,
Праз якія з маленства ў блакіце
Бор шуміць і пяюць жураўлі:

Студзень — з казкамі снежных аблокаў,
Люты — шчодры на сіні мароз,
Сакавік — з сакатаннем і сокам
Непаўторных вясновых бяроз,

Красавік — час маланак і лівняў,
Травень — з першым каханнем, сяўбой,
Чэрвень — з ягаднаю зарой,
Ліпень — з мёдам,
З пшаніцаю — жнівень,

Спелы яблычны верасень,
Светлы кастрычнік
У празрыстасці чыстай, крынічнай,
Лістапад — залаты лістапад,
Снежань — першы густы снегапад...

Ці плачу я, ці пяю?
Ці размаўляю з матуляю?
Песню сваю, мову сваю
Я да грудзей прытульваю.





У ПУШЫСТЫМ СНЯЖКУ. Фота: Паўлючук

## РЭВАЛЮЦЫЯ У КРУГЛЫМ ЛЯСКУ

Цяжка вызначыць дату, калі яна тут пачалася. Можа яшчэ перад вайной, калі нейкія рукі сярод начной цемры рассявалі КПЗБ-оўскія лістоўкі. Можа ў час лютай акупацыі, калі жыхары лясных вёсак давалі зімой і летам прытулак партызанам, хаця добра ведалі гітлераўскія «законы». (З таго часу засталася супольная магіла ўсіх 11-ці мужчын вёскі Полька).

Даты ніхто не можа ведаць, але напэўна вядома, што ўсе — вялікія і малыя — здарэнні гадамі цэлымі нарасталі ды сумаваліся як паасобныя слаі велізарнага дуба.

Вечар. Цемра. Назойліва імжыць дождж. Холадна. Калёсы гумавіка глыбока страгнуць у балоце. Варшаўская пісьменніца едзе ў Круглы Лясок на аўтарскую сустрэчу. Для яе — гэта ўжо край свету.

— Што ў вас чуваць, чым займаецеся, што робіце? — цікавіцца пісьменніца.

— Што ж у нас пачуеш! — адказвае возчык. — Нават электрычнага святла няма. Вёсачка наша малая...

Сапраўды, Круглы Лясок не налічвае нават 10-ці дамоў, але навокал яе раскінуліся другія вёсачкі, якія ў далёкім мінулым былі адзінокімі хутарамі. Разам тады круглалескае солацтва згуртоўвае 60 гаспадароў, сярод якіх аж 22 састаяць у членах Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Ці гэта нейкі выпадак? Хіба не. Проста цяжкае жыццё і трагічны лёс надта ж пераканаўча вучылі рэвалюцыйнай свядомасці многіх жыхароў гэтай вёскі.

Зямля тут дрэнная: лес, пясок, а над ракой Нарвай — балота. Ды яшчэ і палоскі. Сярэднія сямі-дзевяцігектаровыя гаспадаркі парэзаныя на 50 кавалкаў. Гэта дабівае астаткова. Можа, тады, калі Міністэрства сельскай гаспадаркі афіцыйна зацвердзіць гайнаўскі эксперымент адносна т. зв. грамадскай камасацыі палёў — можа тады ў Круглым Ляску будуць завораны непатрэбныя баразны.

Круглалескія сяляне ставяць на жывёлагадоўлю. Малако штомесяц прыносіць у сярэднім да паўтары тысячы злотых кожнаму гаспадару. Патрэбная была зялёна. Пабудавалі яе. Не пашкадавалі ні сіл, ні грошай. Нават самыя малодшыя забавязаліся і працавалі па 20 гадзін кожны. Цяпер ужо не мусяць штодзень вазіць малака ў Юшкаў Груд або ў Ялоўку.

(Працяг на стар. 5)

## ІХ УЖО 800 ТЫСЯЧ

**Уладзіслаў Гамулка ў сваёй прамове на IV з'ездзе Польскай аб'яднанай рабочай партыі гаворачы аб нашым новым гаспадарчым плане сказаў:**

**«Будзе гэта першы 5-гадовы план маладога пакалення Народнай Польшчы, таго пакалення, якое мела шчасце не сустрэцца ў сваім жыцці з горкай рэчаіснасцю капіталізму, — буржуазнага ладу даваеннай Польшчы, якое, не прайшло праз пекла вайны і акупацыі, радзілася ўжо і вырастала ў нашым дваццацігоддзі Народнай Польшчы».**

**Краіна наша стаецца краінай моладзі. У 1965 год увайшлі мы, як грамадства, у якім каля 34 працэнтаў — гэта людзі з узростам ніжэй 25 гадоў. Будучыня нашай краіны ў вялікай ступені залежыць ад таго, якой з'яўляецца гэтая моладзь, якімі з'яўляюцца яе мары, жыццёвыя планы, імкненні і ідэалы. І таму так многа ўвагі нашая Партыя і ўсё грамадства прысвячаюць адпаведнаму выхаванню моладзі.**

Выхаванне, аднак, гэта не толькі школа ці сям'я, гэта таксама асяроддзе моладзі. Маладыя людзі вучацца ад старэйшых, але і са спрэчак і дыскусій са сваімі сябрамі, са сваіх разважанняў, вопытаў, перажыванняў.

І таму справы ЗМС-у — арганізацыі, якая дзейнічае сярод гарадской моладзі, цікаўяць не толькі моладзь, але і ўсё грамадства. Аказіяй да асаблівага зацікаўлення справамі Саюза сацыялістычнай моладзі быў III З'езд гэтай арганізацыі, які адбыўся ў днях 17—19 XII. 1964 года.

Саюз сацыялістычнай моладзі згуртоўвае зараз у сваіх радах каля 800 тысяч членаў. На працягу 4 гадоў, ад II з'езду лік членаў гэтай арганізацыі павялічыўся больш чым у два разы. III З'езд шмат увагі прысвяціў праблемам выхаваўчай дзейнасці сярод моладзі. Уладзіслаў Гамулка ў сваім выступленні на З'ездзе ЗМС сацыялістычнае выхаванне моладзі назваў галоўным заданнем гэтай арганізацыі. Адначасова ў абрадах З'езда звярталася ўвагу на неабходнасць спалучэння ідэйна-выхаваўчай працы з цэласцю дзейнасці ЗМС.

(Працяг на стар. 4)





# ГОД КРЫЗІСАЎ У АГРЭСІЎНЫХ БЛОКАХ

На сусветнай выстаўцы ў Нью-Йорку арганізатары выстаўкі закапалі герметычную капсулу з інфармацыямі аб навейшых дасягненнях навукі — для будучых пакаленняў, на ўсякі выпадак. На той жа выстаўцы В. Дзісней задэманстраваў для публікі дыназаўраў, якія жылі некалі на нашай планеце. Яны вымерлі між іншым таму, што мелі шмат вострых зубоў і моцныя мускулы, але затое мала мозгу ў чэрапе.

Паўночнаатлантычны пакт выдаў на ўзбраенне за 15 гадоў свайго існавання 900 мільярдаў долараў. Як бачым, зубоў і зброі тут шмат, але затое што ж нарадзілася за гэты час у чэрапе НАТО? Найбольш новая ідэя — стварэнне атамнага пояса вакол граніцы Заходняй Германіі. «Штаб мудрацоў» НАТО хоча замяніць «жалезны занавес» на «атамны».

Стратэгі НАТО спадзяюцца, што гэтым яны адвернуць гістарычны працэс, стрымаюць працэс аслаблення міжнароднага напружання і развіццё палітыкі мірнага суіснавання паміж Усходам і Захадам. Атамны мінны пояс, які складаўся б з тысячы ядзерных снарадаў — ці гэта не шырокае поле для найгоршых правакацый, дзе і так ужо назбіралася нямала запальнага матэрыялу?

На апошняй сесіі Савета НАТО міністр абароны ЗША Макнамара заявіў, што толькі ў адной Заходняй Германіі існуюць такія запасы ядзернай зброі, якія раўняюцца пяці тысячам такіх бомб, якая была кінута на Хірасіму.

Свет ужо прызвычаіўся да хлуслівых дэкларацый з Бона аб тым, што галоўныя клопаты ФРГ — гэта аб'яднанне Германіі. Але да гэтага моманту ніхто не спадзяваўся, што для аб'яднання спатрэбіцца такі сродак, як мінны атамны пояс. Не раз мы чулі і абяцанні з-за акіяну аб тым, што ЗША хочуць збудаваць масты паміж Усходам і Захадам. Прыкра толькі, што за аснову маста яны выбралі рэвізіяністкія колы Заходняй Германіі. А можа ў Вашынгтоне пераблыталі паняцце маста з паняццем умацаванага плацдарма?

Падобным авантурызмам пахне і другая, найнавейшая ідэя НАТО — шматбаковыя ядзерныя сілы. У каго запазычыў такую «ідэю» трэст мазгоў НАТО? У флібуст'ераў ці гітлераўскага пірата, адмірала Дэніца? Тое, што на маштах караблёў НАТО з ракетамі «Палярыс» будуць развявацца блакітныя флагі з віламі Няптуна, а не чорныя, не зменіць факта: пірацтва застанецца пірацтвам.

Амерыканскі публіцыст Рэстан, вярнуўшыся з падарожжа па Еўропе, дайшоў да вываду, што ў Еўропе ўжо не вераць у небяспеку нападу Савецкага Саюза. І ён не разумее, чаму ЗША стараюцца запхаць стары свет як найбольшай колькасцю ядзернай зброі.

Снежаньская сесія Савета НАТО паказала ўсю глыбіню існуючага крызіса атлантычнага пакта. Але крызіс ахапіў у меншай ці большай ступені ўсе іншыя мілітарныя блокі, створаныя ЗША і Англіяй. Глыбокі крызіс перажывае ЦЭНТО. Знак пытання стаіць над далейшым існаваннем СЕАТО.

1964 год знаменаваўся крызісам агрэсіўных блокаў. Трэба верыць, што нашы патомкі не будуць вымушаны разбіваць каменнай сякерай капсулу з навуковымі інфармацыямі, закапаную ў Нью-Йорку. І можа на будучых сусветных выстаўках мы ўбачым не толькі фігуры адкапаных дыназаўраў, але і макеты «вымерлых» агрэсіўных блокаў.

**НАМЕСНІК**

**Урад Японіі ўзнагародзіў амерыканскага генерала Лімэйя, аднаго з віноўнікаў трагедыі Хірасімы, а ўрад ЗША ўзнагародзіў ордэнам японскага генерала Гэнда, аднаго з арганізатараў нападзення на Пірл - Харбор.**

(З газет)



**СПЯРША ТЫ МЯНЕ, ПОТЫМ Я ЦЯБЕ...**

Малюнак: Кукрыніксы




29 снежня мінулага года ў Доме настаўніка ў Гайнаўцы адбылася канферэнцыя павятовага актыву БГКТ, у якой удзел узяло 80 чалавек.

Мне, як запрошанаму госцю з Сямяціцкага праўлення аддзела БГКТ у Мілейчыцах і як карэспандэнту «Нівы», хочацца звярнуць увагу на некалькі праблем, якімі займалася канферэнцыя.

Першай і галоўнай праблемай канферэнцыі была праца гуртка на вёсцы, яго магчымасці і заданні. Вось аб гэтых справах шырока гаварыў дакладчык — старшыня праўлення аддзела тав. Іванюк. Аб гэтым многа гаварылася і ў час дыскусіі.

Сябра Грыц з Гайнаўкі гаварыў аб неабходнасці плённейшага супрацоўніцтва гурткоў з настаўнікамі, а настаўнік з Ласінкі, сябра Бароўскі, звяртаў увагу на патрэбу шырэйшага развіцця мастацкай самадзейнасці.

Стары дзеяч рэвалюцыйнага руху Васіль Дзун у сваім выступленні параўноўваў жыццё беларусаў у даваеннай Польшчы з цяперашнім жыццём.

— Тады, — працягваў ён, — на Беласточчыне зусім не вывучалася ў школах беларуская мова, а зараз на Гайнаўшчыне амаль усе дзеці навучаюцца роднай мовы.

Інструктар Галоўнага праўлення Мікола Лобач сваё выступленне прысвяціў арганізацыйным справам гуртка. элементарным абавязкам кожнага члена БГКТ і супрацоўніцтву з іншымі арганізацыямі данага асяроддзя. Гаварыў ён таксама аб працы гуртка ў самай Гайнаўцы, аб тым, што звыш 100 членаў яго рэкрутуюцца з інтэлігенцыі, якая працуе ў розных установах. Значная частка гэтай інтэлігенцыі абыякава адносіцца да беларускага таварыства, а ёсць выпадкі, што некаторыя людзі саромяцца роднай мовы.

З вялікай увагай прысутныя выслухалі выступлення члена экзекутывы Павятовага камітэта Партыі Аляксея Крука, які падкрэсліваў рэвалюцыйныя традыцыі гайнаўскага рабочага класа і сялянства.

— Загінуўшыя змагары за лепшую долю назаўсёды застануцца ў памяці працоўных. Аб гэтым трэба гаварыць на сходах, на розных спатканнях. Трэба арганізаваць сустрэчы з дзеячамі КПЗБ, з дзеячамі «Грамады», якой у 1965 годзе прыпадае 40-годдзе ад яе заснавання.

На заканчэнне канферэнцыя прыняла пастанову, якая мае забяспечыць лепшую працу гурткам БГКТ.

**Сяргей Крэйза**
Мілейчыцы

Наша акцыя

## КНІЖКІ ДЛЯ ДОМА КУЛЬТУРЫ ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА Ў ГАРАДКУ

Падарунак **Ежы Латышонка з Эльблёнга.**

«На прасторах Беларусі»; Міхась Клімковіч — «Збор твораў» том І; Міхась Клімковіч — «Збор твораў» том ІІ; Н. Рыбак — «Переяславская рада»; П. Федоров — «Генерал Доватор»; І. Давидайтис — «Секретная почта»; А. К. Туманский «Полет сквозь годы»; Л. Н. Толстой «Война и мир»; том І і ІІ; А. Кронин — «Памятник крестоносцу»; Ст. Злобин — «Степан Разин»; П. Вершигора — «Люди с чистой совестью»; Канстанцыя Буйла — «Выбраныя творы»; В. Лацис — «Потерянная родина»; М. С. Каацар — «Нарысы па гісторыі выяўленчага мастацтва Савецкай Беларусі»; Г. П. «Беспощадный»; В. Лацис — «К новому берегу»; Г. М. Своенок — «Венские встречи»; H. Mann — „Poddany"; A. Rudnicki — „Wybór opowiadań"; I. Erenburg — „Upadek Paryża"; M. Pujmanowa — „Igranie z ogniem"; Ł. Kudrybacha — „Dzieje kodeksu Andrzeja Zamoyskiego"; J. Putrament — „Rzeczywistość"; I. Erenburg — „Opowieści, opowiadania, wiersze"; K. Dickens — „Przygody Oliwera Twista"; Guy de Maupassant — „Opowiadania"; P. Jilemnicky — „Nieorane pole"; Panstw. Inst. Wyd. — „Nowele litewskie"; Książka i wiedza — „Pamiętniki chłopów"; P. Pabemanandzara „Madagaskar"; I. Erenburg — „Burza"; I. Erenburg „Dziewiąta fala"; H. Fast — „Odjazd"; Panstw. Inst. Wyd. — „Nowele estońskie";

**Ілья Захаравіч Бернат з Беластока:**

J. Dobraczyński — „Dwudziesta brygada"; A. Fredro — „Pan Jowialski"; Э. Самуйлёнак — «Збор твораў», т. ІІ;

**Падарунак Янкі Цялушэцкага з Новага Ляўкова, Гайнаўскага павета:**

А. Батров — «Матросская королева», В. Панюков — «Рассказы зверолова; Я. Галан — «Памфлеты»; І. Мележ — «Блізкае і далёкае»; С. Ворков — «Флаг на гафеля»; Н. Островский «Как закалялась сталь»; A. Bobruk — „Matka i syn";

**Пятро Сіповіч з Мрангова**

А. Астрэйка — «Бацька мой Нёман»; Ludowa Spółdzielnia Wydawnicza — „Jak żyją chłopi w świecie"; Instytut Mazurski w Olsztynie, Stacja Naukowa Polskiego Towarzystwa Historycznego — „Komunikaty Mazursko-Warmińskie"; Naczelny Komitet Zjednoczonego Stronnictwa Ludowego — „Wieś współczesna".

## МУЗЫКАЛЬНЫ СТАРШЫНЯ

Старшыні гурткоў ЗМВ — Найчасцей людзі з ініцыятывай і аўтарытэтам. Старшыня гуртка ЗМВ у Махнатым — Сяргей Кучко — не толькі хлапец дзелавіты, але найлепшы ў аколіцы музыкант. Члены гуртка любяць яго і шануюць. Пад яго кіраўніцтвам моладзь брала ўдзел у розных працах грамадскім чынам, між іншым, на дарозе Стары Корнін — Дубічы Царкоўныя, за што атрымала ад Дарожнага аддзела Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы як узнагароду дошкі на пабудову танцавальнай пляцоўкі. Пляцоўка была пабудавана і старшыня — музыкант іграў на ёй усё лета ў вольны час да танца. (п)

## ДА 330 ГАЛАВІНЫ З ЧАСУ СМЕРЦІ ВЫДАТНЫ

XVІ стагоддзе ў гісторыі развіцця беларускай педагагічнай думкі займае асабліва важнае месца. У тым часе на беларускіх землях Вялікага княства літоўскага дзейнічаюць такія выдатныя пісьменнікі, публіцысты, мовазнаўцы і друкары як Георгій Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Сцяпан і Лаўрэнцій Зізанії і шмат іншых. Усе яны, натхнёныя высакароднымі ідэямі Адраджэння, а затым Рэфармацыі, разгортвалі сваю дзейнасць у розных напрамках культурнага жыцця, будучы вернымі сынамі сваёй эпохі — эпохі ўсебаковага зацікаўлення чалавекам і гармоніяй яго развіцця. Вось чаму амаль кожны з іх у меншай ці большай меры ў сваёй дзейнасці звяртаў увагу на справы асветы. Пры гэтым, беручы за ўзор заходнееўрапейскае адраджэнчаскае зацікаўленне нацыянальнымі мовамі, дзеячы беларускай культуры ў XVІ стагоддзі таксама бачылі ў роднай беларускай мове адзіны сродак, на якім можна пашыраць асвету сярод насельніцтва і прапаведваць свае думкі. Але, каб мець магчымасць, абмінуць лацінскую і царкоўнаславянскую мовы, якія, дарэчы, былі вядомы толькі нязначнай колькасці насельніцтва — духавенству і заможнай шляхце, — трэба было стварыць на базе помнікаў пісьменства і жывой гаворкі нарматыўную граматыку беларускай мовы.

Пачынальнікам звароту да беларускай мовы, як мовы дастойнай не толькі свецкага, але і царкоўнага ўжытку быў у Беларусі Георгій Скарына. Яго паслядоўнікамі ў гэтай справе былі С. Будны і В. Цяпінскі. Карыстаючыся беларускай мовай у сваіх выданнях, яны, аднак, абмінулі справу нармалізацыі і вывучэння беларускай мовы.

Вялікім пачынальнікам справы даследвання, вывучэння, сістэматызацыі і нармалізацыі беларускай кніжнай (літаратурнай) мовы быў Лаўрэнцій Куколь-Тустаноўскі, вядомы ў гісторыі пад прозвішчам Лаўрэнція Зізанія.

Да нашага часу не захавалася звестак аб даце нараджэння гэтага выдатнага беларускага педагога і філолага. Вядома толькі, што паходзіў ён з дробнай шляхты Трокскага павета. Атрымаўшы старанную як на тыя часы адукацыю, Лаўрэнцій Куколь-Тустаноўскі прысвяціў сваё жыццё дзейнасці на ніве асветы. Дакументы сведчаць, што ў 1592 годзе ён пачынае працаваць у якасці настаўніка праваслаўнай брацкй школы ў Брэсце і тут спрабуе разгарнуць сваю даследчую і выдавецкую дзейнасць. Але, не знайшоўшы падтрымкі і матэрыяльнай дапамогі для сваіх пачынанняў, вымушаны быў пакінуць Брэсць і некаторы час прабываў у гарадах Падляшша (Бельску і, праўдападобна, у Супрасльскім манастыры). Затым едзе ў Вільню і там на працягу 1595—1596 гадоў працуе настаўнікам у Віленскай праваслаўнай брацкай школе. Іменна ў Вільні


ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 2 (363) 10 студзеня 1965 года



## САНКІ ЗА САНКАМІ

Снежная горка,
Снежная горка,
Тут і Пятрусь,
І Алесь, і Рыгорка.

Гоман і смех
Узняла дзетвара,
Вынаў сняжок.
І катацца пара.

Санкі за санкамі,
Санкі за санкамі,
Я — за Алёнкай,
За мною — Святланка.

А за Святланкай —
Галінка, Рыгорка.
Быццам бы поезд
Спускаецца з горкі.

ВІКТАР ШЫМУК

ВОСЬ ЯКАЯ ГІСТОРЫЯ ЗДАРЫЛАСЯ З НАСЦЯЙ НЯДАЎНА

## ПРАЧЫТАЙЦЕ ВІНШАВАННЕ



## Дзед і ўнучка

Дзед выйшаў на кухню, а трохгадовая Галька ўвалезла на стол і паадрывала ўсе лісткі з календара.

— Унучка, што ж ты зрабіла? — вярнуўшыся ў пакой, узяўся за галаву і сказаў дзед. — Усе дні адарвала...

— Дзедка, а табе шкада адарваных дзён?

— Шкада, унучка, шкада, — хітра ўсміхнуўся дзед і гладзіць Гальку па галаве. — Іх усё роўна не вернеш.

Назаўтра на тым жа месцы дзед павесіў новы каляндар.

— Дзедка, бачыш колькі яшчэ дзён уперадзе. Хочаш, я не буду іх адрываць.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Дарагая «Зорка»! Пазнаём нас з сябрамі і сяброўкамі з іншых вёсак. Яўгенія Болтрык, Ніна Болтрык, вёска Болтрыкі, пошта Юшкаў Груд, Беластоцкі павет.

*

Добры дзень, «Зорка»! Пішу да цябе пісьмо і хачу, каб ты пазнаёміла нас з сябрамі і сяброўкамі з іншых школ. Мы вучымся ў Паўлах. Ільля Садоўскі, Ніна Андросюк, Лёня Мароз, Валя Харытанюк і Ірына Аляксеюк, вёска Паўлы, пошта Рыбалы, Бельскі павет.

Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Zorka"

# У БУРАН

У пятым класе канчаўся апошні ўрок, калі дзверы ціха адчыніліся, і зайшоў дзед Нупрэй. Ён сцягнуў з галавы вялізную заечую вушанку, асцярожна прысеў на краёк задняй парты. Зрабіў настаўніцы знак, каб не звяртала на яго ўвагі, працягвала тлумачэнне.

Зіна Перапечка азірнулася і на ўвесь голас прашаптала:

— Кацін дзядуля!...

Каця вучылася ў тым самым пятым класе, што і Зіна Перапечка. Толькі сёння яе ў школе не было. І ўчора не было, і пазаўчора... Чатыры дні таму назад з Кацяй здарылася няшчасце.

Раніцай яна пайшла наведаць дзеда Нупрэя, які жыў у леснічоўцы. Калі ўжо была недзе на паўдарозе да дома, падняўся страшэнны буран. Такога бурану ў гэтай мясцовасці не помнілі нават сівыя дзяды. Каця збілася з дарогі і заблудзілася.

Невядома, колькі часу і дзе блукала яна адна ў буране. Вядома толькі, што надвечар таго дня нейкі шафёр прывёз яе ў бальніцу. У Каці былі злёгку абмарожаныя рукі і ногі. Яна моцна прастудзілася і захварэла на двухбаковае запаленне лёгкіх.

Маўклівага і заўсёды панурага дзеда Нупрэя на гэты час было не пазнаць. На дзяцей жыва пазіралі яго зусім не старэчыя сінія вочы, і ў іх свяцілася цёплая ўсмешка.

«Мусіць з Кацяй ужо ўсё добра»! — падумалі пяцікласнікі.

— Тут вось які інтарэс, дзеткі. Прыходзіў у бальніцу шафёр. Наведацца. Ну, той, што Кацьку тады прывёз. Дык расказваў мне адну штуку...

Усе прыціхлі, каб паслухаць, што іменна расказаў дзеду шафёр.

Адзін толькі Косця Рабашапка сабраў у сваю палявую сумку падручнікі і выйшаў з класа. Па праўдзе кажучы, гэта нікога не здзівіла. Каця і Косця былі ворагі. А ўсё праз вучобу. Косця ўвесь час — чым-небудзь захапляўся — то будаваў планёры, якія не хацелі лятаць, то майстраваў ракеты, ад якіх ледзь не згарэў іхні дом, то дрэсіраваў сабак... Словам, займаўся ўсім, чым хочаш, адных толькі ўрокаў не вучыў па-сапраўднаму.

Вось за гэта Каця сароміла яго. А хто гэта любіць, каб яму чыталі натацыі, ды яшчэ пры людзях! І Косця як мог, помсціў Каці.

Дзед Нупрэй прыгладзіў сваю белую бараду і стаў побач з настаўніцай:

— Дык, знацца, было так... Гэта, знацца, шафёр мне расказваў... Ну, буран у той дзень, самі ведаеце, які быў шалёны. Вось і засціг ён шафёра ў дарозе. А тут дзе дарога, дзе канава — нічога не разбярэш. Тады ён зусім стаў. А буран раптоўна сціх. Ну, ён, шафёр, знацца, разгроб лапатай снег і паціху паехаў далей. Чуе — нехта крычыць. Агледзеўся, аж хлапец на руках дзяўчо нясе. Кацьку, знацца. І сабака каля хлапца ўвіваецца. Перадаў ён Кацьку шафёру. Удвух трохі расцёрлі яе. Адышла. Вочы расплюшчыла. Ну, шафёр і павёз яе ў бальніцу. А хлапец з сабакам назад падаліся... — Дзед перадыхнуў, выцер пот — не прывык ён многа гаварыць.

— А хто той хлапец? — падхапілася Зіна.

— Ды каб жа я ведаў! Шафёр таксама не спытаў, скуль ён і хто. Не да таго было. Чалавека ратаваць





трэба. Запомніў толькі, што сабаку Рэксам завуць. Ну, і я прыйшоў да вас. Можа, вы тут ведаеце пра таго добрага хлапца...

— Рэкс ёсць у нас, — падняла руку Зіна. — Але ж ён... ён тады дома быў...

— І ў нас Рэкс, — сказаў Зінін сусед Федзя Зарэмба, — толькі і ён сядзеў у хаце.

— У Рабашапак ёсць таксама Рэкс, — сказалі з задняй парты. — Ды Косці няма ўжо... А так бы...

— Тэ-эк, — спахмурнеў дзед Нупрэй. — А хацелася аддзякаваць чалавеку. Кацька мая папраўляецца, усё пытаецца, хто яе выратаваў. — Дзед скамячыў сваю вушанку. — От я і прыйшоў, думаў, што вы падкажаце...

Праз тры тыдні Каця вярнулася ў школу.

А Косця ўсё часцей хадзіў з Рэксам у лес.

Аднойчы Рэкс падняў вялікага зайца. Зацахліў, пагнаў яго па лесе. Хоць Косця і быў на лыжах, угнацца за ім не мог.

Калі Косця наблізіўся па следу да ўскрайку і ўбачыў, што там робіцца, аж аслупянеў ад здзіўлення: на ганку леснічоўкі сядзеў, стрыгучы вушымі, заяц, а дзед Нупрэй палкай адганяў ад яго Рэкса.

Косця свіснуў Рэкса і пад'ехаў бліжэй. За вуглом хаты стаяла маленькая

# КОТ І САБАКА

Кот і сабака былі розныя: кот сапраўдны, а сабака — не. Морда ў сабакі вельмі мне спадабалася — калматая, з вусікамі, хвост — загагулінкай. Калі хвост пакруціць, чорны сабака кланяўся і круціў галавой.

Гэты сабака быў цацачны, з плюшу. У яго замест поўсці была тканіна-плюш, мяккая і прыгожая. А ў хвасце ў яго, аказваецца, быў дрот. Вось і ўсё. Ён не піў і не еў.

Я вам ужо расказваў аб адважным кацяняці Агапычу. Незаўважна ён вырас і зрабіўся вялікім катом.

Мы ў той час жылі ў горадзе, на трэцім паверсе вялікага шэрага дома і Агапыча ніколі на вуліцу не выпускалі. Што робіцца на свеце, Агапыч, хоць і вырас, а толкам не разумеў. Сапраўдных сяброў-звяроў у Агапыча не было, а з людзьмі яму было смутна.

Агапыч нават не ведаў, якія звяры жывуць у нас у панадворку, якія дрэвы растуць, якая птушка завецца варонай, а якая вераб'ём. Адкуль ён мог гэта ведаць? У раннім дзяцінстве мама-кошка расказвала яму тое-сёе пра мышэй — вось і ўся кашэчая навука.

Калі плюшавы сабачка ўпаў з полкі на падлогу, Агапыч спалохаўся: што гэта за звер зваліўся на галаву? А потым бачыць: сабака не кусаецца, ляжыць уверх нагамі — мабыць, пабіўся...

Агапыч дакрануўся да сабакі лапкай, перавярнуў яго на бок, панюхаў, узяў за шкірку і панёс да сябе на канапу. Мабыць, пашкадаваў. А калі я пакруціў за хвост і сабака замахаў галавой, Агапыч уцешыўся, як маленькі, нават падскочыў тры разы запар на адным месцы. Ён, мабыць, падумаў, што сабака жывы. І тады Агапыч узяў сабачку і панёс на кухню.

У кухні, ў кутку, стаяў белы глыбокі спадачак з малаком. Гэта быў Агапычаў спадачак і Агапыч вырашыў пакарміць малаком чорнага сабачку. Ён доўга трымаў сабаку за шкірку і, як маленькае кацяня, тыкаў носам у спадачак.

Малако цекла па сабачых вусах, толькі ў рот не трапляла. Але Агапыч гэтага не разумеў і быў вельмі задаволены: ён сваё зрабіў — сябра накарміў.

Неяк раз я пайшоў у госці. Я, калі выходжу з дому, заўсёды адчыняю фортачку: у пакоі павінна быць свежае паветра.

Позна вечарам я вяртаўся дамоў. Падышоўшы да самага дому, я раптам пачуў нейчае мурчанне над галавой. Я падняў галаву і ўбачыў, што ў адчыненай фортачцы на тоненькай перакладзінцы сядзіць Агапыч. У гэтым нічога дзіўнага не было: Агапыч вельмі любіў сядзець ля адчыненай фортачкі і дыхаць свежым паветрам.

Дзіўна было тое, што побач з Агапычам на перакладзіне сядзеў... чорны плюшавы сабачка, і Агапыч на ўсялякі выпадак трымаў яго за вуха. Ён, значыцца, не адзін лазіў дыхаць свежым паветрам, а і сябра браў з сабою.

Вось які быў Агапыч!

А вы гаворыце, што кот з сабакам не сябруюць. Вельмі сябруюць, калі кот сапраўдны, а сабака — не!

**В. Емяльянаў**



# ТЭАТРЫК НА СЦЯНЕ





на з белай кастрычкай. «У дзеда госць» — здагадаўся Косця. Ён ужо хацеў ехаць далей, але на ганак выйшаў той самы мужчына ў скуранай курткі і паклікаў:

— Давай сюды, хлапец, да нас!

Косця не спяшаючыся падышоў.

— Ну і злосны ж, настойлівы ў цябе сабака, — з захапленнем сказаў ён. — Дзед яго палкай лупіць, а ён сваё. Проста пішчом лезе. Як яго завуць?

— Рэкс, — Косця падышоў да незнаёмага.

— Як, як? Рэкс? — незнаёмы прыглядзеўся да Косці. Дык вось ён хлапец, якога вы ўсё шукаеце!..

Праз мінуту Косця ўжо сядзеў у дзедавай леснічоўцы, уплятаў белы хлеб з мёдам.

— Дык чаго ж ты маўчаў, лайдак гэтакі? — ласкава запытаў дзед.

— А што? — падняў вочы Косця. — Падумаеш, гераізм. Во, каб Рэкс злавіў ворага...

Дзед Нупрэй і яго госць зарагаталі.

А Косця сядзеў і пакрыўджана хмурыў бровы.

**Яўген Курто.**

## НАША РУКА...

Каб данесці да рота лыжку з супам, трэба прывесці ў дзеянне больш 30 суставаў і 50 мышц ад пляча да кончыкаў пальцаў. Наша рука — складаны і надзвычай тонкі інструмент. Дзякуючы старанней і працяглай трэніроўцы пальцы музыканта могуць прымусіць гучаць да 120 нот у мінуту. Самы «незалежны і працавіты» палец — вялікі, самы моцны — сярэдні. Найбольш спрытныя пальцы — указальны і сярэдні, а марудны — мезены палец. Самы «няздольны» палец — безыменны, ён цяжэй засвойвае навыкі, калі чалавек вучыцца іграць на музычных інструментах або на пішучай машынцы.

## РАСКРЫЦЬ ПРАЗ ПЯЦЬ ТЫСЯЧ ГАДОЎ

Падрыхтавана эзяючая капсуля — пасылка далёкім нашчадкам. У ёй будуць змешчаны звесткі пра сучаснае жыццё і найбольш важныя навуковыя дасягненні за апошнія дваццаць пяць гадоў. Капсулю закапаюць на месцы Нью-Йоркскай сусветнай выстаўкі, якая адкрыецца ў гэтым годзе. Раскрыць капсулю прадпісваецца не раней 6 965 года.

## КАРТА, ЯКОЙ НЯМА ЗНОСУ

На ўзараным полі рассцелены дзве геаграфічныя карты. Па іх тры разы прагуляўся гусенічны трактар. Карты, натуральна, ператварыліся ў бясформенныя брудныя камякі. Але калі іх памылі і разгладзілі шчоткай, яны поўнасцю набылі першапачатковы выгляд.

Сакрэт гэтых карт — у паперы, на якой яны надрукаваныя. Тэхналогія яе вырабу распрацавана ў Швейцарыі. Карты, надрукаваныя на такой паперы, будуць практычна вечныя. Гэта асабліва важна для геолагаў, падарожнікаў — усіх, каму даводзіцца слаць карту на зямлі, карыстацца ёю ў любое надвор'е.



## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ



Эдзі Агнацвет

### Я — РАБОЧЫ

Адкрывае хлопчык вочы,
Кажа хлопчык:
— Я — рабочы!
Ён памыўся і паснедаў,
Малаток узяў у дзеда.

— Стукай — грукай, малаток! —
Напявае Петрусёк.
У сцяну забіў цвічок
І павесіў ручнічок.

Працаваў, не смуткаваў,
Зоры ясныя каваў.
І са стукам — пераззвонам
Месяц выкаваў зялёны.

Потым хлопчык Петрусёк
Птушцы выкаваў лісток,
Для пчалы — званочка — краску,
А для нас з табою — казку.

### МАМА ПЕСЦІЛА МАЛОГА

Мама песціла малога:
— Ты мой зайчык-пабягайчык,
Быстраногі мой зайчына!
Адказаў хлапчына строга:
— Я — вялікі пабягаец,
Я — не заяц,
Я — мужчына.



 

# ЯШЧЭ РАЗ АБ КУЗАВЕ

Не раз пісалася ў «Ніве» аб Кузаве, якая знаходзіцца ў Гайнаўскім павеце. Пісалася аб людзях гэтай вёскі, аб справах іх штодзённага жыцця, аб дасягненнях. Сёння яшчэ раз хачу вярнуцца да некаторых спраў, якія вартыя ўвагі.

Спачатку вернемся да мінулых гадоў. Перад вайною Кузава была вёскай «забітай дошкамі», якіх многа сустракалася на Беласточчыне. Людзі жылі бедна. Зямля тут ліхая. Адной крыніцай даходу кузаўцаў была праца на чыгунцы ў Чаромусе. Амаль 30% жыхароў працавала на чыгунцы невыкваліфікаванымі рабочымі. Рэдка сустракалася чалавека ў Кузаве з адукацыяй. У гады вайны Кузава не была спалена гітлераўцамі, хаця і тут дзейнічалі партызанскія групы, ад якіх тінулі гітлераўскія захопнікі. Людзі ахвярна памагалі партызанам. Верылі, што засталося ўжо нядоўга чакаць вызвалення. Хутка яно завітае і ў Кузава.

Пасля заканчэння вайны Кузава закіпела жыццём. Людзі вярталіся з канцэнтрацыйных лагераў і хапаліся, перад усім, за працу і памалу забываліся аб пеpажытых гадах нядолі. Краіна патрабавала здаровых рук да працы. Хто толькі не ляніўся, знайшоў сабе адпаведнае месца працы. Кузава цалкавіта стала вёскай чыгуначнікаў. Зараз 90% жыхароў вёскі — гэта чыгуначнікі. Пачалі расці, як грыбы пасля дажджу, новыя дамы. У 1952 годзе ў Кузаве замігцелі электрычныя лямпачкі. Трэба падкрэсліць, што ў Кузаве жывуць працавітыя людзі. Многа працы ўлажылі ў грамадскія чыны. Была пабудавана чынам святліца, дарога з Чаромухі ў Кузава больш 2 км. Кузаўцы таксама многа працы ўлажылі ў будову новай крамы, выканалі шмат іншых прац. Вёска з кожным днём усё прыгажэе. За апошнія гады пабудавана тут шмат новых прыгожых дамоў з пустакоў і цэглы. Няма ўжо бедных кузаўцаў, якіх было шмат да вайны. Людзі жывуць у дастатку. Амаль у кожнай хаце ёсць радыёпрыёмнік. Кожны малады хлопец марыць цяпер аб матацыклы. Кузаўцы — гэта культурныя людзі. Вольныя хвіліны праводзяць у мясцовым клубе кніжкі і друку «Рух». Кожны дзень прыходзяць тут не толькі маладыя хлопцы і дзяўчаты, але і старэйшыя людзі. Чытаюць газеты, слухаюць радыёпрыёмніка, іграюць у шахматы. А важаком усяго гэтага ёсць мясцовы гурток Саюза сялянскай моладзі. Маладзёжная арганізацыя налічвае 31 хлопцаў і дзяўчат. Часта арганізуе танцавальныя вечарыны. У кастрычніку быў сарганізаваны эстрадны канцэрт. Наступны канцэрт рыхтуецца на студзень 1965 года. У 1964 годзе быў сарганізаваны сельскагаспадарчы гурток. Пакуль што не распачаў яшчэ працы. Пачне яе ў бліжэйшым ужо часе. Цяпер жыхары Кузавы вучацца таямніц сельскай гаспадаркі. У лістападзе распачаўся курс, які вядзе аграном з ГРН-у Чаромуха Уладзімір Сідарук. На занятkі прыходзіць многа людзей. А моладзь таксама вучыцца ў арганізаваным нядаўна гуртку сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Вось так жывуць і працуюць жыхары Кузавы

**Уладзімір Сідарук**

Кузава

# ПАСЛУГІ

Адной з форм актывізацыі самой Гайнаўкі і асадаў Гайнаўшчыны: як Белавежа, Кляшчэлі, Нарва і Нараўка з'яўляецца пастаяннае развіццё паслуг для насельніцтва.

На адным з апошніх пасяджэнняў прэзідыума ПРН у Гайнаўцы быў праведзены аналіз дагэтуляшняга развіцця паслуг і таксама накрэслены заданні на наступныя гады. Для характарыстыкі існуючага стану паслуг варта прывесці некалькі цыфраў. У 1960 годзе ў павеце было 346 пунктаў паслугі, дык ужо ў канцы 1964 года 520. У гэтай галіне тады працавала 403 асобы, а зараз 642 асобы. Вартасць з 9,9 мільёнаў злотых у 1960 годзе узрасла да 17,5 мільёнаў злотых.

Нягледзячы на гэтыя дасягненні развіццё паслуг сустракае шмат перашкод. Адчуваецца недахоп памяшканняў і кваліфікаванай кадры рамеснікаў, а таксама забеспячэння ў належную сыравіну. На Гайнаўшчыне існуе прыкладна 150 нелегальных пунктаў паслугі. Ідуць адміністрацыйныя намаганні, каб іх залегалізаваць.

З мэтай далейшага забеспячэння развіцця паслуг Прэзідыум ПРН забавязаў спулдзельчыя кааператыўныя ўстановы да пабудовы ў асадах павільёнаў, а з мэтай павелічэння колькасці пунктаў паслугі на вёсках пастаноўлена ўвесці 50 працэнтавую абніжку на курсах кваліфікацыйных для сялян — рамеснікаў і 50% падатковую абніжку будаўлянай бранжы, калі хто будзе намагацца сарганізаваць свае майстэрні — пункты паслугі.

**Ю. КОЗАК**

Гайнаўка

# РЭВАЛЮЦЫЯ Ў КРУГЛЫМ ЛЯСКУ

**Тухлае святло газоўкі і свяшчэнны агонь амблемы Саюза сялянскай моладзі — адно і другое спадарожнічае круглалескай рэвалюцыі.**

(Працяг са стар. 1)

Але яшчэ перад тым, многа раней...

Лёня Казберук, старшыня гуртка Саюза сялянскай моладзі, раскрывае чырвоную кніжку. Гэта хроніка. Шкада, што другія гурткі, другія вёскі не маюць падобных хронік. Калі б гэта залежыла ад мяне, абавязкова прыказаў бы кожнаму солтысу весці падобную кніжку, запісваць у ёй усе падзеі, усе здарэнні.

Варшаўская пісьменніца ўважна водзіць вачыма па роўных радках запісак, выведзеных рукой настаўніцы Ніны Андрэюк.

Люты 1963 год. Памятаеце, якая лютая была зіма? А доктар Раман Гарадэцкі з Беластока 30 гадзін правёў сярод круглалескай моладзі. Прыязджаў штотыдзень.

— Старэйшыя не прыходзілі, саромеліся, — паясняе сяброўка Галінка.

Чаго саромеліся? Школа здароўя мела багатую праграму. Калі ў Круглы Лясок прыехаць з Беластока вечарам, дык назад можна вярнуцца толькі раніцай на другі дзень. Гутаркі доктара Рамана Гарадэцкага зацягваліся тады часам і запоўнач. Спачатку дзяўчаты хаваліся адна за другую, хлопцы апускалі насы, але ўсе разам вастрылі слых. Слухалі і пра гігіену, і пра свядомае мацярынства, і пра пабудову чалавечага цела. У галовах яснела. Рэчы, на якія дагэтуль глядзелі праз акуляры вясковага каўтунства, ставаліся зразумелымі, трацілі сваю фальшывую сарамлівасць.

Сакавік 1964 года. Курс гатавання. Вялі вучаніцы гастранамічнага тэхнікума з Беластока. Вучылі круглалескіх сяброўак тайнаў кухоннай справы — ад супу аж па торт.

Праблемны курс. Ужо другую зіму вядзе яго кіраўнік школы настаўнік Уладзімір Янель.

Што цікавіць жыхароў гэтай лясной вёскі, закінутай на край свету?

Распрацавалі дзве п'есы: «Боты» і «Зэмсту». Пастаноўкай «Ботаў» заваявалі ў мінулым годзе другое месца на павятовым аглядзе.

— Гэта адносна культуры, — сцвярджае кіраўнік.

А вось іншыя праблемы: пачатак хрысціянства, крыніцы рэлігіі, гаспадарчае спаборніцтва ў свеце.

У Круглым Ляску няма святла. Толькі 6 гаспадароў мае батарэйныя радыёпрыёмнікі. Хочацца, аднак, ведаць, што дзеецца на свеце. Гэтае імкненне прыбрала канкрэтны кшталт. На школьнай сцэне вісіць вітрына. Добра яе відаць з вуліцы. Зрабілі гэтую вітрыну круглалескія члены ССМ. За шклом — сценгазетка, якая інфармуе аб навейшых здарэннях у свеце. Рэдагуюць яе супольна моладзь і настаўнікі. Некаторыя сябры жартам кажуць, што ёсць у іх свой круглалескі орган. Рэч здавалася б невялікая, але якжа істотная, павучальная: Нямнога на Беласточчыне налічыш вёсак, якія змаглі б пахваліцца ўласнымі сценгазеткамі ды яшчэ ў зашклёнай вітрыне.

Круглалесцы імкнуцца да навукі. 10 асоб закончыла экзаменам перад суровай павятовай камісіяй у Беластоку курс сельскагаспадарчай падрыхтоўкі III ступені, 17 асоб папаўняе сваю пачатковую адукацыю на вячэрнім курсе. Можна яшчэ гаварыць пра святкаванне дня жанчын, дня Савецкай Арміі, 25 гадавіны ўзнікнення II-ой сусветнай вайны, пра Дзень Адраджэння Польшчы.

Ці гэта ўсё?

Вось яшчэ адна скромная запісачка: у гонар 20-цігоддзя Народнай Польшчы моладзь Круглага Ляска прыняла ўдзел у працы грамадскім чынам пры пашырэнні вясковай вуліцы.

У Круглым Ляску два гумовыя вазы ледзь змяшчаліся паміж платамі. Разлаваліся юнакі. Узялі сякеры ды рыдлёўкі...

А старэйшыя гаспадары ста[л]і мурам:

— Не, і канец!

Дайшло ўжо да гэтага, што ў справу ўмяшаўся сам сакратар Павятовага Камітэта ПАРП тав. Камінскі. Зразумела, падтрымаў маладых. Цяпер свабодна размінаюцца ў Круглым Ляску самаход з трактарам.

А трактар ёсць свой, вясковы, гурткоўскі. Выпрасілі яго круглалескія гаспадары летам 1964 года. Хаця ўлады не вельмі ахвотна давалі. Палоскі тут, баяліся, што трактар будзе стаяць. Не стаіць, аднак, работы хапае.

— Некаторыя ў нас, — сцвярджае старшыня сельскагаспадарчага гуртка Герасім Кужалеўскі, — ужо прадаюць коней. Трактар лепш аплоціцца. Нават на нашых палосках.

Трактар арэ, капае бульбу, апрысквае расліны.

Вось якімі дарогамі ходзіць круглалеская рэвалюцыя. Ажыццяўляюць яе людзі, якія вырашылі сваю вёску наблізіць да свету. Самі, без аглядак на так званую падтрымку зверху. Здзіўляюць сваім энтузіязмам, асабліва маладыя — дзяўчаты: Галінка Тарасевіч, Галінка Палех, Лідка Амбражкевіч, Галіна Грыц; хлопцы: Лёня Казберук, Алесь Палех, Янка Кардаш.

Электрастанцыя яшчэ не паспела працягнуць сюды сваіх провадаў, але вось яны — гэтыя дзяўчаты і юнакі — як толькі патрапяць раз'ясняюць вясковую цемру, працягваюць, паглыбляюць сваю круглалескую рэвалюцыю.

**ВІКТАР РУДЧЫК**

Фота аўтара

## Палеміка

# ЦІ МАРЫ АБ ГАРАДСКІМ АДЗІНОЦТВЕ?

Крануў мяне за жывое артыкул Ул. Паўлючука «Мары аб свеце адзіноцтва». Крануў якраз таму, што я, падобна Дамяну, з'яўляюся выхадцам з вёскі і жыву ў вялікім горадзе. Згаджаюся з аўтарам артыкула, што вёска з'яўляецца нейкім зграным калектывам, які супольна дзеліць усе радасці і нягоды, што кожны чалавек у гэтым калектыве ёсць у пэўнай ступені нявольнікам грамадскасці.

Не магу, аднак, падзяліць думкі аўтара, што вясковыя людзі, асабліва моладзь, мараць аб адзіноцтве, што яны ў пошуках гэтага адзіноцтва выязджаюць у шумныя гарады. На сваім прыкладзе і маіх сяброў магу сцвердзіць, што моладзь выязджае з вёсак у пошуках ведаў і працы, у пошуках лягчэйшага, больш атракцыйнага жыцця. Выязджаючыя з вёсак у гарады людзі ніколі сабе не ўяўляюць, што ў аграмадным гарадскім натоўпе можна быць адзінокім. І толькі па нейкім часе, калі абжываюцца ў горадзе, пераконваюцца, што часам бываюць тут адзінокімі і гэтае адзіноцтва іх абсалютна не цешыць, а наадварот, становіцца жудасным, і ўсімі сіламі стараюцца яго пазбыцца.

Малы кантакт паміж жыхарамі шматпавярховых гарадскіх дамоў у штодзённым жыцці яшчэ не сведчыць аб іх адзіноцтве. Што гэты кантакт бывае слабым, я сам пераканаўся, жывучы тры гады ў адным будынку з нашым паэтам Д. Шатыловічам. І трэба было пасля трох год сустрэцца нам на літаратурным семінары ў Беластоку, каб са здзіўленнем даведацца, што раздзяляе нас у Варшаве толькі адна лесвічная клетка. Ды што тут гаварыць аб суседняй лесвіцы, калі мы найчасцей нічога не ведаем аб сваіх суседзях, што жывуць за сцяною. Мая суседка, старэйшая адзінокая жанчына, атруцілася газам і толькі праз некалькі дзён, калі на лесвіцы пачуўся пах газу, паднялася трывога і прыехала міліцыя. Прычына самагубства жанчыны — поўнае адзіноцтва. Адзіноцтва з'яўляецца страшэнным, таму чалавек не можа аб ім марыць. Выхадцы вёскі, урастаючыя карэннямі ў гарадскі грунт, калі, раней ці пазней, пачуюцца адзінокімі, шукаюць кантактаў з людзьмі. Яны не з'яўляюцца і не хочуць быць адзінокімі. Толькі некаторыя з іх, якія поўнасцю не прымкнулі да новага асяроддзя, часова могуць быць адзінокімі. Не маю намеру іх пераасцерагаць — як гэта чыніць Ул. Паўлючук — перад «зманлівым» адзіноцтвам, таму, што адзінокімі яны не будуць.

Мы, жывучы ў вялікім горадзе, калі часта не ведаем нічога аб сваіх суседзях, не з'яўляемся адзінокімі. Кожны з нас мае ў горадзе прадпрыемства, дзе працуе шмат блізкіх сяброў ці цэлыя сем'і, з якімі ўтрымоўвае пастаянны кантакт. І калі нават з некаторымі сябрамі не сустракаемся штодзённа, дык прынамсі час ад часу, за святочным сталом. Гэтыя кантакты з'яўляюцца надта трывалымі, працягваюцца гадамі, а нярэдка праз усё жыццё. Нашыя сяброўскія кантакты, найчасцей якраз кантакты землякоў, дазваляюць нам пазбегнуць «зманлівага» адзіноцтва.

**ВІКТАР ШВЕД**

**Дзе Варшава, а дзе Круглы Лясок! Аднак, калі ёсць шчырае жаданне, адлегласць не з'яўляецца перашкодай. Дзяўчаты і хлопцы з Круглага Ляска слухаюць варшаўскую пісьменніцу.**



 

